АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

18 — 24 ЧЭРВЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№25 (217)

ТРАГЕДЫЯ

## Пахавалі на вясковых могілках

*ВАЛОЖЫН. На могілках вёскі Люціна Ярашэвіцкага сельсавета пахавалі 19—гадовага Сяргея Саладкевіча.*

Навучэнец сталічнага ПТВ №23 атрымаў траўмы 30 мая ў падземным пераходзе станцыі метро "Няміга". 11 чэрвеня ён ад траўмаў памер у пятай гарадской клінічнай бальніцы Мінска. У Люціне жывуць яго дзед і бабуля.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## «Каменны Лог» прафінансуюць

Работы па абуладкаванні мытных тэрміналаў на мяжы Беларусі з Літвой і Польшчай, паводле звестак з афіцыйных крыніц, будуць сёлета прафінансаваныя ў поўным аб'ёме і завершацца да канца года.

На гэтыя мэты плануецца накіраваць 100 мільёнаў расійскіх рублёў. На 1 чэрвеня было пералічана толькі крыху больш за 15 мільёнаў расійскіх рублёў, што прывяло да ўтварэння запазычанасці ў памеры 2 мільёнаў расійскіх рублёў перад будаўнікамі, якія займаюцца абуладкаваннем тэрміналаў. Аднак гэтая запазычанасць будзе ліквідавана ў самы бліжэйшы час.

У сувязі з дэфіцытам фінансавых сродкаў прынята рашэнне аб паэтапным увядзенні ў дзеянне мытных тэрміналаў. У прыватнасці, прапускныя комплексы на пераходах «Каменны лог» і «Брузгі» будуць уведзеныя ў дзеянне да канца года.

*Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.*

СМАРГОНЬ

## Затрымліваюць зарплату

Ускладняецца сітуацыя з выплатай заработку бюджэтным арганізацыям раёна. Так, работнікам адукацыі выплацілі 14 чэрвеня толькі частку заработку за май, а калі выплацяць астатняе – ніхто не ведае.

Як ніхто не ведае, калі будуць аплачаныя водпускі ў настаўнікаў, якія пачынаюцца ўжо. На іх аплату патрэбная немалая сума – амаль 150 мільярдаў рублёў.

*Віктар ШОЦЬ.*

ВАЛОЖЫН

## Бясплатнай энергіі не бывае

За 5 месяцаў работнікі мясцовага энерганагляду склалі 103 акты за раскраданне электрычнай энергіі ў быце на агульную суму 693 мільёны.

І ў горадзе, і ў вёсцы штрафныя санкцыі даходзяць да 40 мільёнаў з гаспадара. Ёсць тыя, хто трапляецца паўторна.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Дэфіцытныя батоны

Ад самай раніцы ў мясцовых харчовых магазінах найбольшым попытам карыстаюцца белыя батоны па 15 і 19 тысяч рублёў. Батон за 19 тысяч спечаны з мукі вышэйшага гатунку, а за 15 тысяч – з мукі першага гатунку. Як у адным, так і ў другім зусім адсутнічаюць цукар і маргарын.

Каб не адказваць на працягу дня па тысячу разоў на адно і тое ж пытанне, у адным са смаргонскіх магазінаў падрыхтавалі аб'яву: "Батонаў па 15 і 19 тысяч у продажы няма".

*Віктар ШОЦЬ.*

СМАРГОНЬ–АШМЯНЫ–МАЛАДЗЕЧНА–ВАЛОЖЫН

## Еўрапейскі бег міру

Ён стартаваў 1 студзеня ў Лісабоне. Інтэрнацыянальная група бегуноў нясе факел міру ва ўсе краіны кантынента. Кожны чалавек можа ўзяць удзел у гэтай міжнароднай акцыі: спартсмены і не спартсмены, юныя і пажылыя.

Фініш адбудзецца 31 снежня ў Лондане. Праз наш рэгіён "Бег міру" пройдзе 21 і 22 чэрвеня па Смаргоншчыне, Ашмяншчыне, Маладзечаншчыне і Валожыншчыне. Начоўкі для каля двух дзесяткаў удзельнікаў акцыі з Германіі, Аўстрыі, Іспаніі, Украіны, Польшчы, Швецыі, Фінляндыі, Нарвегіі, Расіі запланаваныя ў Ашмянах (з 21 па 22) і Валожыне (з 22 па 23).

Усё неабходнае на тэрыторыі нашай краіны забяспечвае беларускі Дзяржкамспорт і аддзелы па ФКСіТ пры выканкомах. Загадчык Валожынскага аддзела **Мікалай Рабцаў** гаворыць, што падобнае не ўпершыню. Праходзіў "Бег міру" тут і ў 1995, і ў 1997. Звычайна траса перасякае Беларусь па дыяганалі ад мяжы з Літвой да мяжы з Украінай.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*





ВІЗІТЫ

# Міністр трапіў у казку

*МАЛАДЗЕЧНА. Міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі на двух "Ікарусах" прывез у горад удзельнікаў семінара — загадчыкаў аддзелаў культуры з усёй рэспублікі. У сераду Маладзечаншчына і Вілейка паказвалі новыя формы работы ўстаноў культуры.*

У Маладзечне госці трапілі на дзіцячае свята "У краіне казак і забаў", арганізаванае цэнтрам эстэтычнага выхавання (дырэктар Ядвіга Чаеўская). У цэнтры праце аздараўленчы летнік. Таму дзеці гарадскіх школ былі і ўдзельнікамі свята, і гледачамі.

На тэрыторыі цэнтра – зялёнай зоне – было створана 8 пляцовак: "Жылі–былі дзед і баба" – Міхась Казлоўскі і Марына Юхневіч сустракалі гасцей; у краіну "кемлівых і мудрых" іх запрашала Святлана Адамушка; у "Горадзе майстроў" школу сямейнага выхавання дзяўчынак праводзіла Валянціна Герасіменка...

Загадчыкі аддзелаў культуры з ахвотай удзельнічалі ў шматлікіх конкурсах разам з дзецьмі. Падарожжа ў казку ім, як і міністру, вельмі спадабалася.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Старшыня Маладзечанскага гарвыканкома Станіслаў Татарыновіч (злева) і міністр культуры Аляксандр Сасноўскі ў Маладзечне.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ЛЕТА: ЗАСУХА, ПАЖАРЫ

# У Вілейцы знікла вадасховішча

*У засуху на тушэнне пажараў зрасходавана каля 500 тысяч кубоў вады — гэтай вадой можна было б запоўніць яшчэ адно вадасховішча. У дадатак да існуючага.*

За апошнія два месяцы пажарныя 56 разоў выязджалі тушыць лясы і тарфянікі. У панядзелак, прыкладам, па раёне гарэла 6 тарфянікаў. Начальнік атрада ваенізаванай пажарнай службы **Іван Шалуха** мусіў звярнуцца да адміністрацыі завода "Зеніт" – патрэбная дапамога людзьмі.

Лета нагадвае гарачынёй 1992 год. Тады 89 дзён тушылі лясы і тарфянікі. Агонь прайшоўся па тысячы гектараў зямлі. А жыхароў вёскі Бубны падрыхтавалі да эвакуацыі. Яны сабралі скарб і назіралі, як агонь па верхавінах дрэў падбіраўся да вёскі.

Як і тады, сёлета самыя небяспечныя месцы ў Даўгінаўскім, Вязынскім, Іжанскім сельсаветах. Узгаранні на тарфяніках калгасаў "Любань" і "Вязынь", дзе мы былі, не толькі цяжка патушыць, але і лакалізаваць.

Хлопцы з пажарнай часці №1 Вілейкі і асобнага паста ваенізаванай пажарнай службы, размешчанага ў Вязыні, якіх мы ўбачылі за работай, гаварылі, што ўвечары баліць галава і цяжка дыхаць. Праўда, і на мяне глядзелі, як на хворага. Выбіраючы ракурс, каб іх сфатаграфаваць, я хадзіў па патушанай тэрыторыі, рызыкуючы трапіць у правал. Пазней толькі даведаўся, што гэта такая пастка: зверху спаленая трава, а пад ёй згарэлы торф. Калі ў правал трапіць нага – асмаліцца імгненна.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Камандзір аддзялення асобнага паста ВПС вёскі Вязынь Аляксей Салаўёў на тарфяніку.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

**Спецыялісты сцвярджаюць, што канчаткова патушыць тарфянік можна на плошчы ўсяго ў 1 кв. м. І трэба тоны вады пусціць у адно і тое ж месца.**

## Паўторыцца мінулае?

*Сёлета надвор'е не такое, як у папярэднія гады. Паветра саваё гарачынёй апякае травы, пасевы.*

Няўжо здарыцца такое, што напісана ў III томе кнігі "Живописная Россия" (выдадзеная да рэвалюцыі, том прысвячаўся Беларусі)? Там перадаецца легенда пра падзеі 1847 года.

Тады выдалася вялікая засуха, жывёла гінула, бо высахла трава, людзі пухлі з голаду. Паводле легенды, над людзьмі злітавалася Нарач. У бязветранае надвор'е яна ўзбунтавалася, ураган вырываў дрэвы з карэннямі, а хвалі выкідвалі на бераг рыбу. Вецер сушыўся, а Нарач хваляваласа, на працягу некалькіх дзён на новым участку выкідвала рыбу.

Людзі падарунак возера ўжывалі ў ежу, сушылі ў запас, вазамі везлі прадаваць, абменьваць на збожжа. Нарач стала ў поўным сэнсе карміцельнай.

Няўжо і сёння паўторыцца мінулае?

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

Працяг тэмы на 2–й стар.

ЛЮДЗІ, ЯКІЯ СТВАРАЮЦЬ ГІСТОРЫЮ

## Віктар Чакалаў – чалавек, які зрабіў з Вілейкі

# Горад Акрабатыкі

*Сёння у спартыўным свеце, прынамсі, у краінах СНД і Балтыі, Вілейка вядомая сваёй спартыўнай школай акрабатыкі. Спартыўнай школай ў шырокім сэнсе. І проста дзіцячай спартыўнай школай акрабатыкі і батута. А "вінаваты" ў гэтым валжанін Віктар Чакалаў.*

Віктар Чакалаў, выпускнік Сталінградскага фізкультурнага тэхнікума, а затым і Мінскага інстытута фізкультуры, патрапіў у 1959 годзе у Вілейку амаль выпадкова. У сярэдняй школе Маладзечна, куды ён прыйшоў па размеркаванні, не сышоўся з яе дырэктарам. І прыехаў у Вілейку. Ужо тады на здольнага юнака вялікія спадзяванні ўскладалі ў Мінску – "бацька" беларускай акрабатыкі, цяпер дацэнт Акадэміі фізкультуры, Міхаіл Цэйцін разлічваў, што акрабатыка ў Вілейцы дасць хутка пра сябе знаць.

—Спачатку было вельмі цяжка, – расказвае Віктар Чакалаў. – Мала каму вядомыя словы *спартыўная акрабатыка* не вельмі прыцягвалі да сябе юнакоў. Тады я пайшоў на невялікую хітрасць. Стаў запрашаць на заняткі па лёгкай атлетыцы, і займаўся ёю, але абавязкова ўводзіў акрабатычныя элементы. Прыехалі мае хлопцы пасля трох месяцаў трэніровак у Маладзечна на абласную спартакіяду па лёгкай атлетыцы і, размінаючыся, рабілі хто сальта, хто фляк. Спачатку нас лічылі за піжонаў, пакуль не занялі там неблагія месцы.



*"Бацька" беларускай акрабатыкі, дацэнт Акадэміі фізкультуры Міхаіл Цэйцін, заснавальнік Вілейскай дзіцячай школы спартыўнай акрабатыкі і скачкоў на батуце, Заслужаны работнік фізкультуры Расіі Віктар Чакалаў і старшыня Вілейскага райспорткамітэта Мікалай Баёў пры падвядзенні вынікаў апошніх спаборніцтваў у акрабатычнай зале Вілейкі 13 чэрвеня г. г.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

Віктару Чакалаву давялося пазмагацца не з адным чыноўніцка–бюракратычным мурам, пакуль не атрымаў права на адкрыццё ў Вілейцы школы акрабатыкі. Дапамаглі ўжо відавочныя вынікі работы і вера ў яго Міхаіла Цэйціна.

Першая вялікая перамога прыйшла ў 1963 годзе, калі акрабаты школы сталі лаўрэатамі агляду–конкурсу мастацкай самадзейнасці школьнікаў Беларусі. Праз год выхаванцы школы выйгралі Кубак Беларусі. Яшчэ праз год мужчынская чацвёрка стала бронзавым прызёрам першынства СССР сярод дзіцячых спартыўных школ, а ДЮСШ стала лепшай у Беларусі... У 1968 годзе Чакалаў вяртаецца на радзіму ў Валгаград.

Віктар Андрэевіч прыехаў у Вілейку на саракагоддзе школы, якую ён пачынаў, разам з сям'ёй, якая нарадзілася таксама ў Вілейцы, разам са сваімі выхаванцамі. А валгаградскія выхаванцы яго, дарэчы, тут у Вілейцы, узышлі на юбілейных спаборніцтвах у мінулыя выхадныя на першыя прыступкі п'едэстала гонару.

На пытанне, ці перажываў ён тут за выступленні вілейчан, заслужаны работнік фізкультуры Расіі Віктар Чакалаў адказаў:

– Вядома! Гэта мая родная школа.

Аб спаборніцвах у Вілейскай ДЮСШ у дні юбілею чытайце ў сённяшнім выпуску "Спартыўнага сектара".

*Юлія ВАНСЛАЎ,*
*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

КУЛЬТУРА

## Будучыя віртуозы

*СМАРГОНЬ. Традыцыйны конкурс камерных ансамбляў імя Агінскага стаў пачаткам музычнай кар'еры для многіх яго ўдзельнікаў. На сёлетнім, шостым па ліку, высокае майстэрства паказалі смаргонцы.*

Дыплом III ступені і спецыяльныя прызы ў сваёй групе атрымалі выхаванцы выкладчыкаў Алены Фёдаравай, Цімура Пагасяна, Марыны Глазкінай, Наталлі Золатавай. Сярод удзельнікаў гэтага ансамбля Валерый Дасюкевіч, які ў лютым стаў дыпламантам абласнога конкурсу "Новыя імёны". А дыпломамі I і II ступені ў гэтай групе ўзнагароджаныя камерныя ансамблі Даўгаўпілскага музычнага каледжа (I ст.), дуэт гімназіі–каледжа пры Белдзяржакадэміі музыкі і ансамбль з Магілёва (II ст.), дуэт Брэсцкай музшколы (III ст.).

У другой узроставай групе перамаглі выхаванцы рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка (I і III месцы). А квартэт каледжа–гімназіі пры Белдзяржакадэміі музыкі (выкладчык Мікалай Шчарбакоў) заняў II месца.

Усе дыпломы і прэміі – а гэта 400, 300, 200 долараў ЗША – ў трэцяй групе атрымалі ансамблі з Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

## "Жаваронкі" паказалі сябе арламі

ВАЛОЖЫН. Калектыў "Вішнеўскія жавароначкі" Вішнеўскай СШ прадстаўляў раён на рэгіянальным фестывалі польскай песні, што прайшоў у Ашмянах.

Фестываль праходзіў пад эгідай Саюза Палякаў Беларусі. А юныя артысты (кіраўнік – настаўніца Эма Барадака), на думку спецыялістаў, выступілі не горш за дарослых удзельнікаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ГІСТОРЫЯ

## Спадчына ў 1000 малюнкаў

МАЛАДЗЕЧНА. У Мінскім абласным краязнаўчым музеі, што ў Маладзечне, пачала работу выстаўка аднаго з цікавейшых мастакоў–графікаў XIX стагоддзя **Напалеона Орды**. Імя гэтага выдатнага мастака і таленавітага музыканта, гісторыка, публіцыста ў свой час было шырока вядомае ў мастацкіх колах Еўропы.

Кожны ўладальнік прыватнага збору лічыў за вялікі гонар мець альбом з творамі Н. Орды. Ф. Ліст, Ф. Шапэн, А. Міцкевіч, П. Жэрар былі тымі людзьмі, якія дапамаглі яму ў цяжкія хвіліны творчага станаўлення і радасныя – прызнання.

Пры жыцці мастака выйшла 8 серый "Альбомаў гістарычных малюнкаў" з 260 твораў. А ўся спадчына Н. Орды налічвае звыш за 1000 малюнкаў.

Творы мастака, якія экспануюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (Маладзечна), прадастаўленыя Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі. Гэта, у асноўным, літаграфіі з альбомаў, якія Напалеон Орда прысвяціў помнікам архітэктуры Беларусі, Польшчы і Літвы.

Музей запрашае наведаць выстаўку, якая працуе штодзённа, акрамя нядзелі, з 9–00 да 17–00.

*Ірына УСАВА,*
*навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.*

ПАЖАРЫ

# ... знікла вадасховішча



*Іван Шалуха раіць, дзе лепш падсілкаваць устаноўку вадой.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*Пачатак тэмы на 1–й стар.*

Праўда, ёсць і "станоўчыя моманты" на пажарах: можна паназіраць за вясёлкай (калі з брандспойта падаецца вада), за невялікім тарнада (вецер падымае ў паветра чорны пыл).

Убачаны ўчастак зямлі – урочышча Казімірскае (2 і 3 гектары) – і далей будзе гарэць, нягледзячы на намаганні пажарных. Супакоіць агонь можа толькі працяглы дождж.

Старшыня калгаса "Вязынь" **Аляксандр Сахно**, які прыехаў на месца пажару, ад адчаю выдаў:

– Хто накліча дождж, таго буду двое сутак частаваць.

На калгаснай вязынскай зямлі праводзілі меліярацыйныя работы. Карэнне дрэў пасля заканчэння работ не вывезлі і не спалілі. Звезлі ў адно месца тарфяніка, утварыўшы вялікія бурты. Штогод сваімі сіламі вязынцы тушылі ў гэтым месцы агонь. Дождж дапамагаў. Сёлета на дапамогу выклікалі пажарных з горада.

Там жа, праз дарогу, трактары нешта сеюць. А каля поля зваленыя драўнінныя адходы (спадчына меліярацыі).

– Не баіцеся, што пажар перакінецца і засеянае поле пашкодзіць пажарная тэхніка? – пытаюся ў старшыні калгаса.

– А што рабіць? – у сваю чаргу, пытаецца Аляксандр Сахно. – Часцяком у жыцці бывае: вочы баяцца, а рукі робяць.

– Тарфянікі і лес – наш боль, – гаворыць Іван Шалуха, – усе мы працуем без выхадных. З досведу ведаю: калі крыху расслабіцца, вогненны слуп хутка дабярэцца да жытла чалавека. Стрымліваем яго, імкнемся патушыць. Чакаем, калі дапаможа ў гэтым надвор'е.

Інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер** (менавіта яна і арганізавала паездку) успамінае, як гарачым летам 1992 года пажарныя дабіраліся да Бубнаў лясной дарогай. Быццам бы і лес уздоўж дарогі не гарэў. А машына толькі заехала ў лес – пачала "плавіцца". Што казаць, стыхія.

24 мая з'явілася распараджэнне райвыканкома за подпісам яго старшыні **Івана Шнітоўскага**. Пакуль забаронены ўезд у лясы транспарту, наведванне лясоў адпачываючымі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

**P. S.** У гэты ж дзень у Даўгінаўскім сельсавеце гарэла зямля калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Пра гэта расказала па тэлефоне ўжо Алена Альфер.

Старшыня калгаса **Анатоль Маркевіч** разам са спецыялістамі спрабавалі тушыць мох, траву, верас, маладыя бярозкі на плошчы 15 га. У 500 метрах ад пажару знаходзіцца вёска Сіўцы. Сабралі мужчын з бліжэйшых вёсак, задзейнічалі калгасную тэхніку. Да барацьбы з пажарам падключыўся і Мядзельскі лясгас. Агонь перамаглі толькі позна ноччу.

## Пра пажары афіцыйна

Мінская вобласць лідзіруе па колькасці пажараў у лясах і на тарфяніках.Толькі за мінулыя выхадныя дні ў рэспубліцы адбылося 57 лясных, 124 пажары на тарфяніках і 36 узгаранняў травы і хмызняку. З іх на Мінскую вобласць прыпадае 28 лясных, 69 пажараў на тарфяніках і 19 узгаранняў травы і кустоўя.

У сувязі з сухім надвор'ем старшыня Рэспубліканскай камісіі па надзвычайных сітуацыях **Генадзь Навіцкі** накіраваў старшыням аблвыканкомаў ліст, у якім прапанаваў узмацніць жорсткасць кантролю за наведваннем лясоў і тарфянікаў. Ад мясцовых камісій па надзвычайных сітуацыях запатрабавана прымаць неадкладныя захады па ліквідацыі ачагоў пажараў у пачатковай стадыі, для чаго выкарыстоўваць сілы і сродкі народнагаспадарчага комплексу, неваенізаваныя фарміраванні грамадзянскай абароны, вайсковыя падраздзяленні і насельніцтва.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Маладзечне вучаць настаўнікаў

**М. Молодэчна. Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Пры учыцельскай сэмінарыі адкрыліся курсы сельскай гаспадаркі. На іх зъехалася 32 вучыцелоў народных і 15 маладых вучыцелоў, што цяпер скончылі сэмінарыю. Лекціі аб садох выкладае старшы спецыяліст па садаводству – Пашкевіч; аб сельскай гаспадарцы будзе вучыць дірэктар школы сельскай гаспадаркі ў Мар'інай Горцы Полешчук.

Вядома, што разумець гаспадарку вучыцелю нічога ня шкодзіць, але вучыцелям трэба і другіх навук; для гэтаго на гвалт патрэбна што лета збіраецца на курсы. Такія курсы ў Вільні ў прошлым гаду хацела завясьці Віленская Ліга Прасьветы. Але гэтаго не ўдалося зрабіць, бо ўчэбны вокруг не надта прыхільна на гэта паглядзеў.

Вецер.

*Першая беларуская газета з рысункамі "Наша Ніва". № 25 ад 18 юня 1909 г.*

*Падрыхтаваў*
*Алесь ВЫСОЦКІ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## "В небесах летели лебеди..."

ВАЛОЖЫН. Вартаўнік калгаса імя М. Горкага П. Ільчанка на вадасховішчы ля рэчкі Альшанка знайшоў лебедзя са скручанай галавой. Зразумела, гэта справа рук чалавечых.

На гэтым вадасховішчы некалькі гадоў жыла пара лебедзяў. З рук людзей брала ежу. Па факце забойства ідзе следства, а з рэштак будзе зроблена чучала для музея.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*ЛЕТА*

# Бочкі–выратавальніцы

*МАЛАДЗЕЧНА. Бочкі з квасам на гарадскіх вуліцах, па вялікім рахунку, з'яўляюцца астраўкамі жыцця. Хаця і выглядаюць не зусім сучасна.*

Раней квасам у бочках гандляваў маладзечанскі гархарчпрамгандаль, камбінат грамадскага харчавання, піўзавод. Цяпер гэтым займаецца толькі піўзавод. Ля кінатэатра "Радзіма", магазіна "Космас", на Старым Месце выстройваюцца, асабліва ў спякоту, чэргі з бідончыкамі, поліэтыленавымі паўтарачкамі. Плануецца адкрыць яшчэ адзін, чацверты, гандлёвы пункт – насупраць музвучылішча. Ёсць патрэба, бо за дзень гараджане толькі з адной бочкі выпіваюць больш за 500 літраў.

Звычайна, наталіўшы смагу, кажуць "дзякуй" прадаўцам. Аднак не толькі яны заслугоўваюць слоў удзячнасці. Галоўны спецыяліст па квасе – **Таісія Брысь**. Начальства і калегі яе завуць ласкава – "квасніца".

– Бяру канцэнтрат, – расказвае яна аб працэсе прыгатавання хлебнага квасу, – ён цягучы, быццам мёд. Усё па тэхналогіі. 29 кілаграмаў на адну тону вады. Стэрылізую. Дадаю дрожджы. Пасля браджэння – цукар. Увесь працэс займае суткі.

Якасць гатовага прадукту перад падарожжам па горадзе правяраецца ў лабараторыі піўзавода (4 работнікамі з вышэйшай адукацыяй), а тэхналагічны працэс – работнікамі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

– Толькі другі год мы з'яўляемся манапалістамі па вырабе і продажы квасу, – гаворыць дырэктар дзяржпрадпрыемства "Гандлёвы цэнтр" маладзечанскага піўзавода **Галіна Скарабагатая**, – 900–літровыя бочкі перайшлі да нас у спадчыну разабранымі. Шмат часу патраціла, каб набыць "кручёлкі" – прыстасаванні для мыцця посуду. І бочкі, і "кручёлкі" – гэта ўжо гісторыя. Запчастак да такога выязнога гандлю даўно не робяць.

– А чаму выбралі для продажу квасу менавіта гэтыя месцы? Ёсць нейкая традыцыя?

– Зразумела, трэба ставіць бочкі ў шматлюдным месцы. Напрыклад, мы хацелі б гандляваць каля магазіна №61 па Ф. Скарыны. Аднак там няма пад'езду для грузавога транспарту. А ля "крывога" магазіна па Валынца і ля магазіна "Кілбасы" (хвіліна ходу ад завода "Спадарожнік") будзе добраўпарадкавацца тэрыторыя. У гэтых месцах нам адмовілі. Каля магазіна на "парашках" таксама нельга. Праблемы з каналізацыяй. Тыдзень трэба за свой кошт трубы варыць. Дарэчы, бочку можна паставіць толькі ў тых месцах, дзе падведзеная вада і ёсць каналізацыя. Таму няхай гараджане, якім даспадобы наш квас і якія не маюць магчымасці яго паблізу купіць, не крыўдуюць на нас.

**– Скажыце шчыра, шмат хімічных дабавак у квасе?**

– Што вы! Наш квас робіцца з натуральнага прадукту. Нават урачы ўжываць дзецям раяць.

**– Мяне зацікавіў набор кампанентаў – дрожджы, цукар. Градусы ў квасе ёсць? Ці "б"е" ён хоць крыху па галаве?**

– Не дачакаецеся.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*




*Ля бочкі з канцэнтратам квасу "квасніца" Таісія Брысь.*



*Чарга за летнім напіткам на вуліцы Касманаўтаў.*

*Дырэктар прадпрыемства "Гандлёвы цэнтр" Маладзечанскага піўзавода Галіна Скорабагатая.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*ЛЕТА*

## Бясплатныя пуцёўкі

З 1 чэрвеня пуцёўкі на аздараўленне ў санаторыі і дамы адпачынку грамадзяне Беларусі аплачваюць па новых правілах.

Да гэтага 10% кошту плацілі толькі тыя, чые даходы не перабольшвалі 10 мінімальных зарплат (МЗП) у месяц. Цяпер – 20 МЗП. 15% ад кошту пуцёўкі будуць плаціць з даходамі ад 20 да 25 МЗП. 20% – ад 25 да 30 МЗП. 25% – з даходамі ад 30 да 35 МЗП і 30% ад кошту – з даходамі звыш за 35 МЗП.

Бясплатныя пуцёўкі, параненйшым, выдаюць аддзелы сацыяльнага забеспячэння ў дзіцячыя санаторыі, інвалідам вайны і працы, мнагадзетным сем'ям. З 1 чэрвеня да іх далучыліся яшчэ грамадзяне, якія апынуліся ў складаным матэрыяльным становішчы.

Чакаецца, што кожная пятая пуцёўка цяпер будзе бясплатная.

*Аддзел інфармацыі.*

*ПАМЯЦЬ*

## Помнік – яшчэ не пакаянне

Большасць народаў свету шануюць памяць не толькі сваіх воінаў, але і праціўнікаў, з якімі яны ваявалі. Пётр I паставіў помнік пераможаным пад Палтавай шведам. На Барадзінскім полі стаіць помнік салдатам і афіцэрам французскай арміі, палеглым у вайне 1812 года...

На вялікі жаль, інакш абстаяць гэтыя справы ў нас, беларусаў – і не толькі ў адносінах да ваяваўшых (у асноўным, не па сваёй волі) іншаземных інтэрвентаў, але і да нашых суайчыннікаў. Асабліва абуральным і кашчунным, з майго пункту гледжання, сталася будаўніцтва на касцях больш чым 33 тысяч савецкіх ваеннапалонных Маладзечанскага шталага № 342 будынка станказавода з прылягаючымі да яго жыллёвымі і гаспадарчымі пабудовамі. Па шматлікіх звестках, на месцы былога канцлагера былі пахаваныя таксама і загінуўшыя ў 1812 годзе ў баях з напалеонаўскім войскам рускія салдаты. Няўжо не ведалі тагачасныя гараданачальнікі і архітэктары месца захавання больш як 220 брацкіх магіл сумнавядомай фабрыкі смерці, праз пекла якой прайшло больш за 80 тысяч чалавек, калі ў 1945 годзе тут працавала дзяржаўная камісія па расследаванні фашысцкіх злачынстваў, якая, як сведчаць афіцыйныя дакументы, мела захопленую ў гітлераўцаў дакладную схему гэтых жудасных могілак.

Міжволі паўстае (можа, і чыста суб'ектыўная) версія аб перадвызначаным знішчэнні месца пахавання савецкіх ваеннапалонных, аўтаматычна залічаных па загадзе Сталіна ў чорны спіс "ворагаў і здраднікаў Радзімы". На мой погляд, гэта была адна з цынічна ажыццёўленых аперацый былых савецкіх ідэолагаў па сціранні і ўжыванні фактаў Другой сусветнай вайны, што не ўвязваліся ў пераможны кантэкст і хаваліся да канца 80–х гадоў – пачатку краху камуністычнай ідэі.

І хаця ў маі 1995 года ў памяць ахвяраў шталага № 342 быў узведзены доўгачаканы помнік–абеліск, усё ж адчуваецца нейкая рытуальная штучнасць гэтай высакароднай справы, прынамсі, без усенароднага пакаяння і маральнага асуджэння вінаватых за гэты чалавечы ўчынак.

*Алесь ЦАДКО.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 9.06 | 16.06 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 505 | **505** |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1039 | **1150** |
| Сасіскі | 1 кг | 445 | **505** |
| Селядзец | 1 кг | 330 | **330** |
| Рыс | 1 кг | 200 | **200** |
| Цукар | 1 кг | 137 | **136** |
| Грэчка | 1 кг | 200 | **250** |
| Алей | 1 л | 375 | **370** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 150 | **138** |
| Маянэз | 250 г | 68 | **70** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 450 | **440** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | **120** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 115 | **120** |
| Лімоны | 1кг | 495 | **509** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 220 | **200** |
| Масла | 1 кг | 500 | **500** |
| Тварог | 1 кг | 140 | **200** |
| Малако | 1,5 л | 70 | **60** |
| Бульба | 1 вядро | 300 | **430** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 200 | **180** |

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*

## Да пучка пучок

Нягледзячы на спякоту, на Маладзечанскім базары не знікаюць "падарункі агарода". 5–літровік клубніц можна набыць за 1 мільён 600 тысяч рублёў, пучок зялёнай цыбулі – 25 тысяч, пучок салаты – 15 тысяч, пучок кропу – 10 тысяч, пучок шчаўя за 20 тысяч, пучок буракоў – 15 тысяч, пучок радысу – 40 тысяч, 1 кг агуркоў – 170 тысяч.

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*

## Акуляры – на нос!



*Ля гандляркі акулярамі ў спякотны чэрвеньскі дзень на Маладзечанскім калгасным рынку.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

## Забастоўку спынілі да ліпеня

СМАРГОНЬ. Прадпрымальнікі, якія гандлююць на мясцовым рынку, правялі сход. На ім абмеркаванае пытанне аб забастоўцы, што цягнулася з 1 чэрвеня.

Адзначана, што ніводнае з патрабаванняў улада не выканала. Прынята рашэнне забастоўку спыніць і выйсці на працу з 12 чэрвеня. Адначасова намечана ў бліжэйшы час стварыць прафсаюзную арганізацыю прадпрымальнікаў. З 1 ліпеня смаргонскія прадпрымальнікі маюць намер уключацца ў агульнабеларускую забастоўку прадпрымальнікаў.

*Віктар ШОЦЬ.*

## Прыватны гандаль непапулярны?

СМАРГОНЬ. Сёння ў раёне 56 прадпрыемстваў вядуць аптова–рознічны гандаль. Ім належыць 30 прыватных магазінаў і ларкоў. 40 прыватных прадпрымальнікаў (без утварэння юрыдычнай асобы) наладзілі свой асабісты бізнес праз 47 гандлёвых пунктаў.

Тавараабарачэнне гандлёвых прадпрыемстваў прыватнай і калектыўнай уласнасці сцішвае тэмпы свайго росту і за I квартал складае 90,8%. Калі гэта стане заканамерным, прыватныя гандляры могуць знікнуць і зусім.

*Святлана САРОКА.*

*САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА*

# Амаль месяц у Амерыцы

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №24.*

## Адновім прэрыі!

Першае, што ўразіла ў Амерыцы, – адкрытасць, добразычлівасць, раскаванасць людзей. Усмешкі, прывітанні зусім незнаёмых амерыканцаў на вуліцы, у магазіне, дзе б ні было – не зусім звычайная для нас з'ява. Прынамсі, праз колькі дзён гэта робіцца само сабой зразумелым.

Жыццё спакойнае, размеранае. Улады клапоцяцца пра грамадзянаў, таму апошнія лічаць сваім абавязкам заплаціць у час зусім немалыя падаткі, бо добра бачаць, куды гэтыя грошы ідуць.

Грамадскі рух мае доўгую гісторыю, склаліся сталыя формы і метады работы. Існуе вялікая колькасць грамадскіх арганізацый, якія існуюць за кошт грошай, што ў той ці іншай форме (гранты, дапамога, іншае) дае дзяржава, адлічваюць вялікія карпарацыі і страхавыя кампаніі, ахвяруюць простыя людзі.

Кожная такая арганізацыя мае свой штат добраахвотнікаў. Пасля сваёй асноўнай работы некалькі раз на тыдзень яны свой вольны час і сілы аддаюць грамадскай рабоце. Накірункі самыя розныя: дапамога бяздомным; падтрымка жанчын, якія апынуліся ў складанай сітуацыі; навучанне мове і адаптацыя людзей, якія прыехалі на пастаяннае жыхарства; ахова прыроды, вяртанне яе да першапачатковага стану (вельмі папулярны рух за аднаўленне прэрый).

Прадукты і адзенне ў суадносінах з іх заработкамі танныя, але амерыканцы вельмі эканомныя людзі, і ўпакоўку з–пад напітку не выкінуць, калі яе можна здаць і атрымаць нават 5 цэнтаў. Рацыянальны падыход да ўтылізацыі смецця: у адну ёмістасць складваюць рэшткі ежы, у другую – паперу, у трэцюю – шкло.

Амерыканцы, з якімі давялося гаварыць, адмоўна ставяцца да бамбардзіровак Югаславіі сіламі NATO. Гавораць пра гэта не хаваючыся ("Амерыка – свабодная краіна"), але дадаюць, што "нешта змяніць не ў нашых сілах". У той жа час вельмі давяраюць сваім уладным структурам.

*Наталля ХАРЫТОНАВА.*

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка

ад Мікалая Хадасевіча з п. Беразінскае Маладзечанскага р–на



**Злева ўніз направа:**

1. Павелічэнне масы, аб'ёму. 2 Востраў у Міжземным моры. 4. Саюз, аб'яднанне. 6. Горад у Мексіцы. 10. Тытул англійскага вышэйшага дваранства. 11. Бог кахання ў індуізме. 13. Рака ў Сібіры, левы прыток Алдана. 14. Напітак з рому і кіпню з цукрам. 15. Найдрабнейшая часцінка хімічнага элемента. 16. Багіня праўды і чысціні ў старажытнаегіпецкай міфалогіі. 17. Частка сусветнага акіяна. 18. Частка оперы, якая выконваецца спеваком. 20. Уменне трымаць сябе. 22. Млекакормячае сям'і грызуноў. 26. Кандэнсацыя вадзяной пары на глебе. 27. Паўкаштоўны камень. 29. Рускі фізік і электратэхнік. 30. Грашовая адзінка ў Перу. 31. Рака ў Індыі. 32. Вось у электравымяральных прыборах.

**Справа ўніз налева:**

2. Венгерскі кампазітар. 5. Слабаалкагольны напітак. 7. Абмежаваная частка прасторы ў геаметрыі. 8. Чарцёж зямной паверхні. 9. Абласны цэнтр у Расіі. 12. Шуба футрам унутры і звонку. 13. Бацька роду чалавечага. 14. Марская птушка з каштоўным пухам. 15. Пустазелле. 16. Рака ў Францыі, Бельгіі і Нідэрландах. 19. Стаўка кіраўніка краіны ў цюркскіх і мангольскіх народаў. 21. Жаночае імя. 23. Дарожнае збудаванне. 24. Старажытны горад на паўночным захадзе Малой Азіі. 25. Сталіца краіны ў Еўропе. 28. Прадстаўнік народаў, якія засяляюць краіны Заходняй Азіі і Паўночнай Афрыкі. 29. Пара года. 30. Рака ў Францыі. 31. Светлыя кругі вакол Сонца і Месяца. 32. Графства ў Вялікабрытаніі.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №24:***

**Па гарызанталях:** 1. Кукалка. 5. Баскетбол. 8. Квас. 9. Адліў. 10. Карп. 14. Рэктар. 16. Фермер. 17. Пас. 18. Консул. 19. Багдад. 22. Стан. 23. Татра. 24. Соня. 27. Нікалаева. 28. Аўтамат.

**Па вертыкалях:** 1. Краб. 2. Какаду. 3. Латвія. 4. Асот. 6. Баскунчак. 7. Касмадром. 8. Каракас. 11. Пародыя. 12. Табун. 13. Сенат. 15. Рак. 20. Накаўт. 21. Аргазм. 25. Ліда. 26. Свет.

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## Усякая ўсячына

Не чуў і не ведаю, як сёння ў вёсках каменціруюць радыёперадачы. А вось год дваццаць–трыццаць адна кабета са Свіры так гаварыла:

– Раніцай чуеш з рэпрадуктара кожны дзень: мяса і малако, малако ды мяса. А вечарам, калі наядуцца, песні спяваюць, салаўямі заліваюцца.

## Зайздроснікі даюць назвы

Атрымаўшы крэдыт у банку ці субсідыю ад цешчы або дастаўшы "зялёныя" з панчохі, многія пачалі ўзводзіць катэджы на паўночнай ускраіне Мядзела. Аднапавярховыя, рознага архітэктурнага вырашэння (у залежнасці ад сродкаў і густу). Пабудовы растуць, як грыбы пасля дажджу.

Зайздроснікі (а такіх заўсёды нямала) першыя далі назвы забудовам. Тыя, што лявей дарогі Мядзел–Нарач, назвалі "Куркулёва–1", а правей – "Куркулёва–2".

## Аб розным

– Насела поўны аўтобус буквароў, – расказваў шафёр свайму знаёмаму, маючы на ўвазе пасажыраў–школьнікаў.

***

– Як дарога?

– Якая там дарога. Татара–там.

– Гэта значыць, у калдобінах?

***

– Кожны можа лавіць рыбу. Але прынесці дадому не кожнаму ўдаецца.

## У запісную кніжку

Толькі лянівы ды абыякавы не мае запісной кніжкі, не заносіць у яе цікавыя думкі, цытаты з кніг, газет, не занатоўвае навакольныя падзеі, гумар і іншыя.

У свой час я з газеты "Праўда" зрабіў выпіскі з артыкулаў, у якіх высмейваліся некаторыя вучоныя, пісьменнікі, прадстаўнікі ўлады, якія простыя думкі ўкладваюць у моўнае шалупінне, дапускаюць шматслоўе.

Вось прыклады. Адзін аўтар пісаў: "Иван обзавёлся семьёй с целью деторождения, но имел альтернативный вариант в соседнем поселении".

А можна было б сказаць: "Хоць Іван жаніўся, але завёў каханку ў суседняй вёсцы". Карацей і зразумела.

Вось другі прыклад з "Праўды": "По мере продвижения в глубь лесного массива наблюдается обилие разных древесных пород". Гэта значыць: "Чым далей у лес, тым больш дроў".

Мой знаёмы дзяліўся ўражаннямі пра лекцыю раённага лектара. Каб бліснуць сваімі ведамі, лектар гаварыў: "Я чалавек гуманны, і прагрэс – мая ідэя". Слухалі гэта вяскоўцы, адзін з іх шапнуў суседу:

– Ты разумееш, што кажа госць з Мядзела?

– Разумею. Лектар сказаў, што ў туман залез на дах і крычыць: "Дзе я?".

З жаночага часопіса ў маю запісную кніжку перасяліўся такі выраз: "Жанчына без хітрасці, што кветка без паху".

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*ШАШКІ*

# У праграме юбілею горада

***ВІЛЕЙКА. Сёлета горад адзначае 400–годдзе. Юбілейныя дні святкавання прыпадаюць на канец лета – 27, 28 і 29 жніўня. Хаця гісторыкі даказваюць, што горад намнога старэйшы і першапачаткова згадваецца як Стары Куранец – цэнтр старасства ў Ашмянскім павеце Вялікага княства Літоўскага.***

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай ў 1793 годзе Вілейка ўвайшла ў склад Расіі. 3 мая 1795 года, па ўказе імператрыцы Кацярыны II, горад стаў цэнтрам адпаведнага павета плошчай каля 5,6 тысяч квадратных вёрст. 22 студзеня наступнага года быў зацверджаны яго герб. На працягу 150 год горад над Віліяй шматразова разбураўся ці спальваўся, акупаваўся французамі ў 1812 годзе, немцамі ў 1915, 1918 і 1941–44 гадах, знаходзіўся ў руках паўстанцаў у 1830–31 гадах, быў пад Польшчай у 1919–20 і 1921–39 гадах, але зноў і зноў аднаўляўся. З 1939 па 1944 год быў цэнтрам Вілейскай вобласці плошчай 20,7 тысяч квадратных кіламетраў і насельніцтвам каля 1 мільёна чалавек; цяпер тут пражывае звыш за 30 тысяч гараджанаў.

Вілейка мае сваё непаўторнае аблічча, адметныя рысы. Непадалёк ад горада самае буйное ў Беларусі штучнае вадасховішча. З Вілейкай звязана жыццё і дзейнасць А. Уласава, Р. Шырмы, Л. Родзевіча, М. Танка, Н. Арсенневай, Е. Путраманта, П. Машэрава і іншых вядомых людзей.

У сувязі з юбілеем тут плануецца правядзенне шэрагу разнастайных культурна–масавых мерапрыемстваў, у тым ліку, і адкрыты чэмпіянат на лепшае рашэнне шашачнай кампазіцыі, які сумесна праводзяць райспарткамітэт і рэдакцыя раённай газеты "Шлях перамогі". Адзначу, што шашкі на яе старонках не рэдкі госць. Яны ўпершыню з'явіліся тут 23 гады таму, было праведзена нямала конкурсаў рашэнняў, іншых спаборніцтваў, у тым ліку, і з удзелам у іх мацнейшых шахматыстаў і шашыстаў рэспублікі. Невыпадкова зборная раёна па гэтым відзе спорту была адной з мацнейшых у вобласці. Пра шашачны клуб "Шлях перамогі" былі добрыя водгукі на старонках рэспубліканскага друку, з боку федэрацыі шашак СССР.

Конкурс перарастае рамкі Вілейшчыны, таму ў вышэйзгаданым чэмпіянаце рашэнняў запрашаем узяць удзел жадаючых з усяго рэгіёна. Пераможцы будуць адзначаныя.

**Вось першыя заданні.**

**№1.** Белыя: простыя g7, h2 (2)

Чорныя: простыя d6, e3, h4 (3)

**№2.** Белыя: простыя a5, h2 (2)

Чорныя: простыя h4, h6 (2)

**№3.** Белыя: дамка c1; простыя f4, h4 (3)

Чорныя: простыя c3, e7, f6, g7 (4)

**№4.** Белыя: дамка b2; простыя c3, h6 (3)

Чорныя: простыя e3, f4, g5 (3).

**Ва ўсіх пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць.** За правільнае рашэнне першых дзвюх пазіцый налічваецца па 1 ачку, дзвюх наступных – па 2. Адказы дасылайце на адрас рэдакцыі газеты "Шлях перамогі": 222410, Вілейка, вул. Вадап'янава, 35. Тым, хто даслаў рашэнні на гэтыя заданні, наступныя будуць высылацца на іх адрас.

На заканчэнне прапаную 3–фінальную задачу вядомага складальніка з Барысава Віктара Самарына, якую ён спецыяльна склаў для газеты "Шлях перамогі" ў 1988 годзе.




**Белыя пачынаюць і запіраюць простую чорных.**

*Анатоль РОГАЧ.*

*РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ*

## Нервовае знясіленне

Піце гарбату з першацвету з дадаткам жменькі жэлаціну. Прымайце таксама біяхімічныя сродкі Kali phos. (5 пілюль перад сном) і Calc. phos. (5 пілюль у сярэдзіне дня).

## Брайтава хвароба (запаленне нырак)

Фитасродак – гарбата з малачаю. Біяхімічны сродак – Calc. phos. (па 3 пілюлі 3 разы ў дзень). Ёсць таксама шмат гомеапатычных сродкаў; каб выбраць найлепшае для вас, пракансультуйцеся ў гамеапата.

## Шышкі на вялікіх пальцах ног

Змазвайце рыцынавым алеем, змешаным з ёдзінам. Прымайце гомеапатычны сродак Sulphur 6x. і спырсквайце серным цветам падэшвы панчох або шкарпэтак.

## Катар бронхаў

Нарэжце цыбулю і пакладзіце яе на талерку. Дадайце маленькую лыжку натуральнага мёду. Накрыйце перавернутай міскай і пакіньце на гадзінаў колькі. Сок, што ўтворыцца, прымайце па маленькай лыжцы. Часнок так сама эфектыўны, як і цыбуля, калі нават не лепш. Прыгатаваны часночны прэпарат пад назвай «Ліквафрута» можна набыць у аптэках. Ён таксама ўтрымлівае лакрыцу і льняное семя, іншыя натуральныя рэчывы, карысныя пры захворваннях органаў дыхання.

*Канстанцыя МЭЛАР.*

*ГАРАСКОП 21 – 27 ЧЭРВЕНЯ*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Лепш не расслабляцца і выкарыстаць усе магчымасці для паглыбленай работы і пашырэння бізнесу. Вас чакае назначэнне на важную пасаду, дабіцца якога, аднак, давядзецца вялікімі намаганнямі. Не ўсе фінансавыя мэты будуць дасягнутыя, але ваша імкненне да іх дастойна ацэняць навакольныя. Планеты спрыяюць закаханым.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05**
Упартай працай забяспечыце стабільнасць свайго фінансавага становішча. Дзякуючы выгаднай здзелцы, камерсанты атрымаюць значныя дывідэнды. Перад імі адкрыюцца новыя перспектывы ў бізнесе. Усеагульнае прызнанне атрымаюць творы Цяльцоў–мастакоў.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Будзеце задаволеныя станам бізнесу і прасоўваннем па кар'ернай лесвіцы. Стабільнасць ва ўсіх справах дапаможа дабівацца фінансавага поспеху, які будзе забяспечаны ў выпадку, калі вы ўтрымаецеся ад спекуляцыйных аперацый. Адносіны са сваякамі застануцца сардэчныя.

**РАК (22.06–23.07)**
Пракладзеце шлях да фінансавага поспеху і пазбегнеце немінучых цяжкасцяў, што выпадаюць на долю бізнесмена. Асаблівая ўдача чакае камерсантаў і кіраўнікоў невялікіх будаўнічых кампаній. Але ў адносінах з роднымі хутка ўзнікнуць праблемы, да вырашэння якіх трэба рыхтавацца загадзя.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Давядзецца вырашаць мноства праблем, у чым вялікую дапамогу акажуць калегі і родныя. Новая крыніца даходаў з'явіцца ў тых служачых, хто пакуль не вырас у вялікія начальнікі. Ільвіцам, якія падумваюць пра звальненне з работы, трэба добра ўзважыць усе "за" і "супраць".

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Зоймецеся вырашэннем праблем, што ўзніклі з нядаўна распачатым бізнесам. Вучоныя, урачы і юрысты атрымаюць прапановы аб супрацоўніцтве з прэстыжнымі арганізацыямі. З сямейнымі непаладкамі скончыце ў бліжэйшы час, дома ўсталюецца святочная атмасфера.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Працягваецца гонка за вялікімі грашыма, якія спатрэбяцца для выканання буйнамаштабнага дзелавога праекту. Вас чакаюць складанасці ў бізнесе, але, нягледзячы на іх, не адмаўляйцеся ад намечаных мэтаў. Не спяшайцеся пускацца ў рамантычныя прыгоды. Новыя захапленні могуць азмрочыць вашыя адносіны з каханым чалавекам.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Трэба выканаць бягучую работу, перш чым брацца за новую. Не адцягвайцеся ад галоўнага і не прымайце новых дзелавых прапаноў. У асабістым жыцці чакайце мноства падзей. Не ўсе яны прынясуць толькі радасць, але з засмучэннямі вы зможаце справіцца з дапамогай родных і пры падтрымцы сяброў.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Узваліце на сябе многа работы і хутка будзеце вымушаныя звярнуцца па дапамогу да калег. Яна прыйдзе своечасова, і вам удасца дасягнуць пастаўленых мэтаў. Лёгкі флірт можа прывесці да з'яўлення праблем са сваякамі ў сямейных Стральцоў.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Вы павінны выкарыстаць сітуацыю, якая склалася, для аналізу свайго фінансавага становішча. Ухважце ўсе "за" і "супраць", перш чым рабіць сур'ёзныя крокі ў бізнесе. Менавіта ў нядзелю вы прымеце рашэнні, якія паўплываюць на ход усіх вашых спраў.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Зоймецеся вырашэннем праблем, звязаных з прасоўваннем у кар'еры. Аптымізм не пакіне вас і дапаможа дабіцца пастаўленых мэтаў. Уплывовыя персоны прыйдуць на дапамогу пры заключэнні важнага дзелавога кантракта.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Пераканаецеся ў непарушнасці свайго фінансавага становішча, на якое не паўплываюць ні крызісы, ні рост цэн. Асаблівых поспехаў не прадбачыцца ў сямейным бізнесе. На яго ход адмоўна паўплываюць магчымыя рознагалоссі з партнёрамі. Кампенсацыяй за ўсе трывогі стане багаты падарунак ад сваяка, які жыве за мяжой.

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | 19.06 | 20.06 |
|---|---|---|
| МІНСК | +26°C- +21°C | +28°C- +23°C |
| ВІЛЬНЯ | +24°C- +20°C | +24°C- +20°C |

**Прадам кабылу**, 5 год, 220 у. а.; **жарабя**, 1 год, 140 ум. адз. Т. у Маладзечне 98768.

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАМ

● Форд-Скорпіё, 2.5 Д, 1988 г. в., цана 3000 у. а.; Мерседэс-608 D, 1983 г. в., цана 3500 у. а., торг. Т. у Вілейцы 52925.

● ВАЗ-21013, 1980 г. в., у добрым стане. Т. у Маладзечне 35798 (Сяргей).

● ФВ Гольф, 89 г. в., 1.6 бензін, шэры металік, 3300 у. а. Т. у Маладзечне 31575.

● ВАЗ-2101, 1977 г. в., капрамонт у 1997 г. Т. у Маладзечне 95044 (Радашковічы).

● **З/ч да Форда-Эскорта, 1983 г. в., бензін, ёсць дакументы. Т. у Маладзечне 31860.**

● Форд-Скорпіё, 2.0, 1992 г. в., панель дрэва, велюр, 4800 у. а., або мяняю на дызель, можна аварыйны або з няспраўным рухавіком. Т. у Вілейцы 57118.

● КамАЗ-5410. Т. у Маладзечне 98189.

● Opel-Kadet-Karavan, 1.6 л. (А-76); Mersedes-190D; з/ч Пежо-405. Рамонт бампераў. Т. у Маладзечне 36667.

● Яву-350/638, 1992 г. экс., 14000 км, выдатны стан; ТК Гарызонт-655. Т. у Маладзечне 33209, 37994, Алег.

● Запчасткі да Фольксваген-Гольф-2. Т. у Маладзечне 34274, пейджэр 71300, абанент 201.

● Форд-Сіеру, дызель, універсал, выдатны стан, нядорага. Т. у Вілейцы 57294 (з $16^{00}$ да $21^{00}$).

● Форд-Сіеру, 2.3 дызель, 1983 г. в., у добрым стане. Т. у Вілейцы 54549.

● BMW-518, 1982 г. в.; Volva-360, 1983 г. в.; Пежо-405, 1990 г. в., усе навароты. Т. у Маладзечне 39575, 39580.

● М/а Мерседэс-207Д, 1986 г. в., грузавы, растаможаны, добры стан, 3500 у. а. Т. у Маладзечне 67213.

● Форд-Эскорт, 1986 г. в., 1.6 Д, люк, ц. замок, 5КПП, 2000 у. а., торг. Т. у Маладзечне 67017.

● Форд Сіера, 1988 г. в., 2.3 Д, прычапное, ц/з, мокры асфальт. Т. у Маладзечне 34434 ($19^{00}$-$21^{00}$).

● Фольксваген-Гольф-3, 1993 г. в., 2.0 л, цёмна-сіні, выдатны стан. Т. у Маладзечне 98195 (пасля $17^{00}$).

● А/м Форд-Эскорт, 1989 г. в., 1.3, стан выдатны. Т. у Маладзечне 42366 (з $10^{00}$ да $18^{00}$), Дзяніс; 67193 (з $18^{00}$ да $23^{00}$), Эдуард.

● Опель-Кадэт-Караван, 1984 г. в., 1., дызель, 3 дзвярэй, 1500 у. а., торг. Т. у Маладзечне 52696 (пасля $18^{00}$).

● Таўрыю, 1994 г. в., 30000 км прабег, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 62957 (дам.), 54575 (раб.).

● А/м Таўрыя, снежань 1991 г. в., 36000 км. Т. у Вілейцы 54987.

● М-21406, 1984 г. в., газ-бензін, поўны капрамонт, колер - лотас; Опель-Аскону, 1987 г. в., бензін, серабрысты металік. Т. у Вілейцы 58446 (пасля $18^{00}$).

● Запчасткі да Форд-Скорпіё, 2.0 бензін, нядорага, в. Нарач. Т. у Мядзеле 46808, 46116.

● А/м Міцубісі-Галант, люкс, 1.8 ТД, 1989 г. в., месяц у РБ, 3200 у. а. або памяняю на а/м з даплатай. Т. у Маладзечне 50117.

● Аўдзі-80, 1.6 дызель, 1989 г. в., чырвоны, 5-КПП, люк, растаможаны. Т. у Маладзечне 69418 (дам.), 54575 (раб.).

● Аўтамабіль М-21406, 1982 г. в., у добрым стане, нядорага. Т. у Маладзечне 54834.

● А/м Таўрыя, 10.1995 г. в., не біты, не фарбаваны, 17000 км, тэрмінова, нядорага. Т. у Маладзечне 32266.

● Форд-Эскорт, 3 дзвярэй, 1.3 Б., 5-КПП, люк, 1988 г. в., ідэальны стан. Т. у Маладзечне 31281.

● М/а Фольксваген-Транспарцёр Т-4, грузавы і грузапасажырскі, 1991 г. в. (абодва дызель), а/м Форд-Сіера, універсал, 1992 г. в., 2 п. Т. у Маладзечне 77595, 77034.

● **Рухавік да Форд-Скорпіё, 2.0 і Донс, 1993 г. з навясным і КП-аўтамат. Т. у Вілейцы 57118.**

● **VW-Джэту, 1.6 бензін, 1989 г. в., нядорага Т. у Вілейцы 58617.**

● **А/м БМВ-320, 1984 г. в., 5 ст., металік, люк, прабег 280 т. км, у добрым стане, 1800 у. а. Т. у Вілейцы 53139.**

● **Форт-Эскорт, 1.6 Д., 1987 г. в., універсал, Галандыя, растаможаны, 2100 у. а. Т. у Вілейцы 52889.**

● Опель-Сенатар, 1991 г. в., 204 к. с., расход 10 л.; Аўдзі-100, 1988 г. Т. у Вілейцы 56127.

● А/м Mazda-929, 1981 г. в., 2.0 б., нядорага. Т. у Маладзечне 36089 (дам.), 68967 (раб.).

● Аўдзі-80 "бочка", 1988 г. в., чорны, люк, гідраўзмацняльнік, без прабегу па СНД, 3600 у. а. ; МАЗ-54322, 1986 г. в.; паўпрычэп МАЗ-9397, 1987 г. в., грузападымальнасцю 2.0 тон, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 60193.

● Масквіч-2140, 1979 г. в., у добрым стане лодку Казанку. Т. у Маладзечне 63243.

● А/м Нісан-Сані, дызель, 1988 г. в.; Рэно-21, 1987 г. в. Т. у Маладзечне 70724.

● А/м Аўдзі-100, 1985 г. в., белы, 1.8 бензін, 2800 у. а., торг. Т. у Валожыне 55578.

● Матацыкл Урал, з каляскай, 1990 г. в., 150 у. а. Т. у Маладзечне 33879.

● ВАЗ-2105 Лада-нова, 1991 г. в., з Германіі, сігналізацыя, выдатны стан, 1600 у. а. Т. у Маладзечне 66969.

● ВАЗ-2103, 1976 г. в., 800 у. а. Т. у Маладзечне 67089.

● Джэту-2, г. в. канец 1989, 1.3 Б., цёмна-сіні, люк, фаркоп, стэрэа, без праблем, 3150 у. а. Т. у Маладзечне 70476 (з $8^{00}$ да $17^{00}$).

● А/м Форд-Сіера, 1986 г. в., у аварыйным стане, з дакументамі, тэрмінова. Т. у Маладзечне 60209 (дам.), 64944 (раб.).

● А/м ВАЗ-21013, 1982 г. в., прабег 65000 км. Т. у Мядзеле 36711.

● Аўдзі-80, 1.6 турбадызель, 1990 г. в., растаможаная, два тыдні ў РБ, выдатны стан, 4350 у. а. Т. у Маладзечне 69909.

● Нісан-Прымеру, газ-бензін, 1991 г. в., выдатны стан, мокры асфальт, 4100 у. а. Т. у Маладзечне 69909.

● Фольксваген-Гольф, 1988 г. в., 1.8 л., 5 ст. КПП, 3 дзвярэй, колер чорны, з Германіі, 2000 у. а. Т. у Маладзечне 60696.

● Матацыкл ІЖ-Ю-5 з каляскай, 1991 г. в. Т. у Маладзечне 74088 (раб.), 67232 (дам.).

● Гольф-2, 1.6 Д., 1986 г. в., 3 дзвярэй. Т. у Маладзечне 69851.

● Мерседэс-190Е, 1984 г. в., 2700 у. а. Т. у Маладзечне 42864.

● **ЗАПЧАСТКІ ДА МІКРААЎТОБУСА РАФ. Т. у Маладзечне 35388.**

● А/м Опель-Кадэт-седан, 1986 г. в., нядорага. Т. у Маладзечне 62508.

● М-2140, 1984 г. в., нядорага. Т. у Маладзечне 35621.

● Аўтамабіль ў Форд-Эскорт, 1985 г. в., універсал. Т. у Маладзечне 36738.

● Матацыкл ЯВА-350/634 з каляскай. Т. у Маладзечне 53301.

● Новы матацыкл Мінск; веласіпед складаны падрастковы; 4 колы 155х15 на 4 шпількі; дзверы б/у. Т. у Маладзечне 32376.

● **ЗАПЧАСТКІ** да Audi-100, 1990 г. в., 2.0 Д., VW-Пасата, 1990 г. в., 1.8 і; Mersedes-190E. Т. у Маладзечне 32866, 39480.

● А/м Альфа-Рамэа-75, 2.0 TDI, 1991 г. в., турбадызель, растаможаны, 2400 у. а., або памяняю. Т. у Маладзечне 33591.

● Фіят-Крому, 1986 г. в., 2.0 і, усе навароты, 1950 у. а., торг. Т. у Маладзечне 51889.

● Форд-Сіеру, 1985 г. в., нерастаможаны, 650 у. а. Т. у Маладзечне 65225.

● Арганізацыям, прыватным асобам аўтамабілі **УАЗ** любой мадыфікацыі і камплектацыі **НАПРАМУЮ** з **ЗАВОДА**. Прыганяем на заказ. Т. ва Ульянаўску (8-8422) 394334, т. у Маладзечне 39315.

● Нісан-Сані, 1986 г. в., 1.7 дызель, 1900 у. а. Т. у Маладзечне 37258.

● Нядорага Мазду-626, 1.6 Б., 1986-87 г. в.; ФВ-Гольф-ІІ, 1989-90 г. в., 1.6 Б. Т. у Маладзечне 33899.

● Аўдзі-100, 1987 г. в., 1.8 Б. Т. у Маладзечне 36665.

● Новыя колы з дыскамі да а/м ГАЗ-63, 66. Т. у Маладзечне 37027.

● Трактар Т-25, плуг, прычэп, бульбакапалку, 2500 у. а. Т. у Смаргоні 21466 (пасля $18^{00}$).

● **МАЗДУ-929, 1987-88 г. в., 2.0 ІНЖЭКТАР, 5-КПП, СІГНАЛІЗАЦЫЯ, Ц/З, ПЭЙДЖЭР, ШЭРЫ МЕТАЛІК, ВЕЛЮР САЛОН, ТЭРМІНОВА, НЯДОРАГА. Т. у Смаргоні 33805, 33154.**

● Форд-Скорпіё, 2.5 Д., 1987 г. в. Т. у Маладзечне 39873.

● Мерседэс-200 Д, куз. 124, 1987 г. в., 6600 у. а. Т. у Маладзечне 54580.

● Матацыкл Мінск, без прабегу. Т. у Маладзечне 70656.

● ВАЗ-21013, 1982 г. в., капрамонт 1997 г. в., 650 у. а. Т. у Маладзечне 39407.

● ГАЗ-53, бартавы, у добрым стане. Т. у Маладзечне 37491.

● Трактар Т-16 М. Т. у Валожыне 33272, 42987.

● А/м Мазда-626, 1986 г. в., 2.0 Б., добры стан, тэрмінова, нядорага. Т. у Вілейцы 53917.

● А/м Пежо-405, 1988 г. в., 1.9 TD, г/у руля, ц/з, э/п, 3150 у. а. Т. у Вілейцы 57184.

● А/м VW-Джэта, 1985 г. в., турбадызель. Т. у Вілейцы 58261.

● Опель-Кадэт-Караван, дызель, добры стан, 5 дзвярэй, 1986 г. в., вельмі танна. Т. у Вілейцы 56955.

● Форд-Таўнус, 1980 г. в., у выдатным стане, торг магчымы. Т. у Вілейцы 57452.

● ВАЗ-21063, 1985 г. в. Т. у Вілейцы 57021.

● ВАЗ-2105, 1989 г. в., 1500 см³, 5-КПП, спойлеры, добры стан. Т. у Вілейцы 57511.

● VW-Гольф, 1986 г. в., дызель, 1650 у. а.; Фіят-Крому, 1988 г. в., бензін. Т. у Вілейцы 78025.

● А/м Форд-Сіеру, 1986 г. в., 2.3 Д., 2000 у. а. Т. у Вілейцы 55120.

● З/часткі да ВАЗ-21011, б/у, нядорага. Т. у Маладзечне 98061.

● А/м Масквіч-2140, 1985 г. в., у выдатным стане. Т. у Маладзечне 67694.

● ВАЗ-2121 Ніву, 1989 г. в., за 1500 у. а. Або мяняю на іншамарку. Т. у Маладзечне 70100.

## КУПЛЮ

● МТЗ-82, б/у. Т. у Мінску 583464.

● Прычэп для л/а. Т. у Вілейцы 57997.

● Кабіну са спальнікам да а/м КамАЗ, колы заднія да МТЗ. Т. у Маладзечне 35595, 39407.

● Дакументы на Опель-Аскону да 1984 г. в. ; прадам Фольксваген-Гольф, 1984 г. в.; прадам турбадызель. Т. у Маладзечне 35798 (Сяргей).

## МЯНЯЮ

● ВАЗ-21061, 1981 г. в., на ГАЗ-24-2410, добры стан, пасля 1980 г. в., колер пажадана белы. Т. у Вілейцы 56105-0.

● Вольва-244, бензін, 1978 г. в. (у добрым стане) на электраматэрыялы, с/тэхніку, разгледзім варыянты. Т. у Маладзечне 69184 (пасля $17^{00}$).

● Арганізацыя мяняе РАФ грузапасажырскі на Масквіч-пікап або М-2141, 1995 г. в. Т. у Вілейцы 55132.

● ВАЗ-21063 + 1-пакаёвую кватэру 12 м² на 1-пакаёвую кватэру большую, або ВАЗ на гараж. Т. у Маладзечне 66078.

## ПАСЛУГІ

● Вазьму спадарожнікаў у РП за а/м. Выбар, суправаджэнне. Т. у Маладзечне 62701.

● Вазьму спадарожнікаў у Польшчу, на а/м за а/м. Выбар, суправаджэнне. Т. у Маладзечне 62701.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ». Пасведчанне № 227.

Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж 8600 экз.** Падпісная цана на адзін месяц **150 тыс. руб.** (індывідуальная падпіска, **індэкс 63212**), **300 тыс. руб.** (ведамасная падпіска, **індэкс 63369**). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. **№25 (217) 18.06.99.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул.Таўлая,11. Зак. №. Падпісана ў друк 13.00 17.06.99.


**РЭКЛАМА**

**СТАЎКІ ЗА 1 КВ. СМ:**

| | |
|---|---|
| Базавая- | 150 тыс. руб. |
| Апошняя старонка- | 180 тыс. руб. |
| ТБ-праграма- | 230 тыс. руб. |
| Першая старонка- | 300 тыс. руб. |

**СІСТЭМА СКІДАК**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

Маладзечна: Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**

Вілейка: гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус" **Тэл. 55194, 55284.**

Смаргонь: 1) Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул.Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012101960012 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя "РГ"